Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 3 (412) | ГОД IX | 19 СТУДЗЕНЯ 1964 г. | ЦАНА 60 ГР.

НОВАЯ ВАРШАВА. Фасад высотнага жыллёвага будынку, які ўзнімаецца на скрыжаванні Згоды і Шпітальнай, з'яўляецца прыкладам фармавання жывой, выразнай архітэктуры пры дапамозе простых і ашчадных сродкаў. Яе скульптурную форму ствараэ зрытмізаваная сістэма малых балконаў, а таксама звязана з гэтым маляўнічае зіхаценне колераў святу і ценю на сцяне.

# СЕЛЬСКАГАСПАДАРЧЫЯ ПЛАНЫ НА 1964 ГОД

**М. КАРНЕЛЮК** кіраўнік Аддзела сельскай гаспадаркі і лясніцтва ВРН у Беластоку.

Апошні, XIV Пленум ЦК ПАРП насіў іншы характар, чым папярэднія. Пленум адбыўся ў канцы трэцяга года пяцігодкі і таму зрабіў комплексную ацэнку эканамічнага становішча краіны.

Гэтая ацэнка выказала, што паміж асобнымі галінамі народнай гаспадаркі ўзніклі пэўныя дыспрапорцыі. Адной з галін, якая не забяспечвае патрэб краіны, з'яўляецца сельская гаспадарка. Каб павялічыць сельгаспрадукцыю, патрэбны новыя капіталаўкладанні. Згодна з указаннямі Пленума, на сельскую гаспадарку прызначана ў 1964 годзе на 32% больш, чым у мінулым годзе, г. зн. 559,8 млн. зл.

Большыя капіталаўкладанні прызначаны на меліярацыю, электрыфікацыю, ПОМ-ы, прадпрыемствы водна - меліярацыйных работ, ветэрынарыю і г.д.

**На меліярацыю** прызначана 219 млн. зл. За гэтыя грошы будзе меліяравана:

ворнай зямлі — 5 716 га;
лугоў і паш — 15 414 га;
загаспадараваных лугоў і паш — 15 000 га;
берагоў рэк і каналаў — 199 га;

Будуць пабудаваны чатыры стражнічоўкі на патрэбы меліярацыі — ў Аўгустове, Элку, Галдапі і Граеве.

**На электрыфікацыю** прызначана 52,1 млн. зл., што дасць магчымасць правесці электрычнае святло ў 166 вёсак і 8 ПГР. Пад канец 1964 года на Беласточчыне будзе электрыфікавана 60,9% вёсак.

На далейшае развіццё **механізацыі** ў сельскай гаспадарцы прызначана 57,8 млн. зл. У сувязі з гэтым узнікае патрэба пашыраць існуючыя прадпрыемствы і аснашчаць іх высокапрадукцыйнымі машынамі і тэхнічнымі прыладамі.

Каб правільна размясціць сетку **рамонтных майстэрань,** у 1964 годзе пачнецца будова трох новых ПОМ-аў: у Ломжы, Моньках і Замброве, а таксама чатырох філіялаў ПОМ у Старым Яжэве, Драгічыне, Дамброўцы і Ясьвілах, прадугледжана адаптацыя майстэрань у Рудцы. Гэтыя раёны пакуль што не маюць магчымасці карыстацца паслугамі рамонтных прадпрыемстваў.

Для прадпрыемства воднамеліярацыйных работ прызначаецца 25,3 млн. зл. Гэта дазволіць прадпрыемству закончыць будову жылых дамоў у Граеве, Сувалках, Высока - Мазавецкім і базы ў Бельску. Большая частка капіталаўкладанняў прызначаецца на закупку машын. Пад канец 1964 года меліярацыйныя работы будуць механізаваны ў нас на 11,6%.

Будуць пабудаваны тры новыя **ветэрынарныя лячэбніцы,** якія будуць каштаваць разам з абсталяваннем 7,3 млн. зл. — у Дубянінках, Радзівілаве і Свянтайне.

Прадугледжваецца пабудаваць у Алецку **станцыю штучнага асемянення,** далей працягваць будову ў Простках і

(Працяг на стар. 4)

ТАДЭУШ КУБЯК

# ВЕЧАР У ВАРШАВЕ

Ёсць вечар і такі ў Варшаве, —
Птушыных сноў вятры не страшаць,
Міцкевіча купляеш кніжку
На Марыенштаце на кірмашы.

Чытаеш... з вербы ліст спадае
На строфы гучнай польскай мовы.
На верш, які плыве, як Вісла,
У спеўнай зелені вясновай.

Я гэты вечар не забуду.
Я зберагу яго ўспамінам.
Каб я хадзіў над Віслай сёння, —
Мой брат над Віслаю загінуў.

Цячэ рака няспынна наша.
Мой добры горад стаў, як казка.
Сваёй дзяўчыне хлопец кажа:
«Прыгожа жыць... Змагацца цяжка...

Ды ўсё ж жыццё мацней за смерць...»
Дзе я пачуў вось праўду гэту?
Ёсць вечар і такі ў Варшаве,
Нібы цудоўны верш паэта.

Пераклаў М. МАШАРА



У БЕЛАВЕЖСКАЙ ПУШЧЫ.

# Дабрабыт не для ўсіх

Не адпавядаюць рэчаіснасці ўяўленні многіх людзей аб дабрабыце ў ЗША. Каб аб гэтым пераканацца, не трэба абавязкова ехаць у Нью-Йорк, а хопіць пазнаёміцца з радам амерыканскіх публікацый. За апошні час шмат іх з'явілася, і гэта сведчыць, што гаспадарчыя праблемы пачынаюць тут займаць першае месца ў грамадскіх канфліктах.

Пачынаючы нашыя разважанні, сцвердзім, што гадавыя тэмпы прыросту ў вытворчасці ў ЗША хістаюцца паміж 2—3 працэнтамі і што падобнымі тэмпамі расце нацыянальны даход. Справа, аднак, у тым, што яго раздзел паміж паасобнымі групамі і грамадскімі класамі не адбываецца раўнамерна. За апошнія 10 год даходы ўласнікаў манаполій і канцэрнаў узраслі ў некалькі разоў больш, чымсьці даходы асноўных слаёў народа. Аб гэтым сведчыць нядаўна апублікаваны рапарт арганізацыі пад назвай «Канферэнцыя па пытаннях эканамічнага прагрэсу». Такім чынам маем самую даставерную крыніцу, апрацаваную былым дарадчыкам прэзідэнтаў Рузвельта і Трумена, прафесарам эканоміі Л. Кейсэрлінгам. Ён адзначае, што ў ЗША зараз 7 мільёнаў беспрацоўных і часткова беспрацоўных. Складае гэта 9,5% агульнай колькасці працоўных. Падамо яшчэ, што нягледзячы на агульны ўзрост нацыянальнага даходу і прамысловага патэнцыялу, беспрацоўе ў 1963 годзе было два разы вышэйшым, чымсьці 10 год назад. Рапарт прадбачвае чорную будучыню для Амерыкі; сцвярджае, што калі на працягу найбліжэйшых 10 год гэтае становішча не будзе ліквідавана, эканамічная сістэма Злучаных Штатаў не ўтрымаецца. На жаль, тое, што прапануе рапарт, каб ліквідаваць беспрацоўе і галечу, не выходзіць, бо і не можа выйсці, па-за рамкі капіталістычнай сістэмы. Без водгуку застаюцца ж заклікі ў адрас уласнікаў канцэрнаў і звязанага з ім ураду, каб наступіла гаспадарчае ажыўленне, спрыяючае ўзросту занятасці.

У гэтым самым напрамку спрабуе ісці прэзідэнт Джонсан, аб чым сведчыць яго нядаўняе пасланне аб стане дзяржавы. Згодна з канстытуцыяй прэзідэнт прадстаўляе праект бюджэту, які пасля прыняцця кангрэсам будзе рэалізавацца ад ліпеня г.г. да чэрвеня наступнага года. І гэта не выпадкова, што амаль цэлае пасланне прэзідэнт прысвяціў унутранаму становішчу краіны. Ён назваў галечу, у якой жыве 40 мільёнаў амерыканцаў, «агульнанацыянальным пытаннем». На думку Джонсана, вось гэтыя 40 мільёнаў людзей, г. зн. пятая частка насельніцтва, мае «вельмі нізкі даход, каб можна было задаволіць асноўныя патрэбы». Зразумела, палітыкі і эканамісты ЗША раздумваюць над тым, ці, напрыклад, такую з'яву, як беспрацоўе, можна ліквідаваць ці прынамсі крыху абмежаваць. Многія напэўна добра разумеюць, што ўсё гэта немагчыма правесці ва ўмовах капіталістычнай сістэмы.

Добра ведаем, што асабліва ў час перадвыбарчай кампаніі ў ЗША паяўляюцца палітыкі, якія, каб здабыць толькі перамогу, не шкадуюць абяцанняў, што ліквідуюць беспрацоўе і галечу. Гэта ўжо звычайная з'ява. Як вядома, восенню г.г. у ЗША адбудуцца выбары прэзідэнта, таму і пасланне Джонсана трэба лічыць першым прапагандным крокам, а не сапраўдным прадвесцем паляпшэння жыццёвага становішча 40 мільёнаў амерыканскіх грамадзян. Джонсан адзначае, напрыклад, што рэдукцыя падаткаў з капіталістычных прадпрыемстваў, якая складзе 11 мільярдаў долараў, павінна быць у цэласці прызначана на ўзрост занятасці і павышэння зарплаты. Мы тут выяснім, што сумы, узнікшыя з рэдукцыі падаткаў, застануцца ў кішэнях капіталістаў, і што менавіта яны, а не ўрад, будуць вырашаць, на што гэтыя грошы выдаць. У гэтым і заключаецца сутнасць капіталістычнай сістэмы.

У гэтых умовах праекты і абяцанні прэзідэнта Джонсана, якія датычаць ліквідацыі галечы ў ЗША, — гэта толькі спосабы, каб можна было здабыць як мага больш даверлівых выбаршчыкаў для Дэмакратычнай партыі.

УЛ. ЛАЗІНСКІ

З жыцця БГКТ

Аляксей Карпюк

# З іскрай аптымізму

Аб працы бельскага аддзела БГКТ было многа сказана і напісана. Як адно, так і другое датычыла дрэннай працы аддзела. У большасці прадстаўнікоў Галоўнага Праўлення думкі і далей песімістычныя. Песімізм у адносінах да Бельскага аддзела аднак не характэрны для ўсіх актывістаў БГКТ. Ёсць і аптымісты. Да апошніх залічваю сябе. Бельскае праўленне мае вялікія дасягненні ў некаторых галінах сваёй дзейнасці. Але мае і велізарныя недахопы. Некаторыя з іх характэрны для ўсіх аддзелаў БГКТ, некаторыя толькі для бельскага аддзела, а вынікаючыя са спецыфікі асяроддзя і з недастатковай працы праўлення аддзела ў Бельску.

## ДАСЯГНЕННІ

Калі ідэалагічная камісія пры Павятовым камітэце ПАРП разглядала ў мінулым годзе прапагандную і культурна - асветную дзейнасць масавых арганізацый, аказалася, што БГКТ у Бельскім павеце з'яўляецца адной з лепшых. Здзіўлены былі члены ідэалагічнай камісіі, бо наслухаліся многа «горкага» аб працы таварыства. Калі таварышы з праўлення аддзела пункт па пункце адчыталі, што зроблена гурткамі БГКТ і ў гуртках, сакратар КП тав Ю. Пяхоўскі пажартаваў: «Таварышы! З такой культурна - асветнай работай, якую зрабіла беларускае таварыства, можна будаваць фундаменты камунізма!» Таварышы з праўлення і самі былі здзіўлены, што столькі зроблена карыснага. Здзіўленне было зразумелым. У бельскім аддзеле даўно не праводзілася шчырага партыйнага аналізу працы гурткоў. Больш усяго на пасяджэннях праўлення аддзела гаварылася аб тым, што мала актыву, а які ёсць, дык мала ахвярны, што няма дапамогі, але якой і ад каго — на гэтае пытанне было цяжэй адказаць. Большасць пасяджэнняў на гэтым канчалася. Не дагаварыўшыся, некаторыя знеахвочваліся да працы і адыходзілі. А праца ў гуртках рабілася пры дапамозе настаўнікаў і мясцовага актыву. На беларускіх вёсках па ініцыятыве гурткоў і пры дапамозе членаў праўлення БГКТ, працуючых у аддзеле асветы, было арганізавана 12 курсаў з праблематыкай беларускай літаратуры, мовы і гісторыі Беларусі. На курсы хадзіла больш 250 чалавек. У выніку гэтага завязалася цяснейшая сувязь між школай і насельніцтвам вёскі. Гэтая сувязь у большасці прыцягнула моладзь, прагнучую культурнай разрыўкі, зрабіць «штосьці для вёскі». Узнікла больш 13 драмгурткоў. Драмгурткі працавалі ў большасці выпадкаў пад кіраўніцтвам настаўнікаў, без ніякай дапамогі з боку павета. Можа ў «павеце» і не ведалі б пра іх існаванне, калі б не агульнакраёвы агляд драмгурткоў народных меншасцей у Польшчы. На павятовым аглядзе перапоўненая зала ПДК не змясціла ахвотных жыхароў з Бельска, якія хацелі ўбачыць сучасных прапагандыстаў беларускага слова — артыстаў-аматараў.

Агляд паказаў, што ёсць шмат драмгурткоў з разнастайным рэпертуарам. Пасля агляду падсумоўвалася (неафіцыйна) культурна - асветная праца ў павеце. А вынікі былі добрыя: 3 драмгурткі выступілі на аглядзе ў Гайнаўцы і ўсе яны занялі першыя месцы.

Таварышы з аддзела

(Працяг на стар. 5)

# ХРОНІКА

9 студзеня на граніцы Панамы са стрэфай Панамскага Канала (адміністраванага ЗША) дайшло да стычкі панамскіх студэнтаў з амерыканскімі салдатамі. Сярод студэнтаў былі забітыя. Ва ўсей Панаме адбыліся бурлівыя дэманстрацыі і мітынгі супроць ЗША. Урад Панамы парваў дыпламатычныя адносіны з ЗША.

11 студзеня ўтварыўся раскол у Сацыялістычнай партыі Італіі. На з'ездзе левага крыла гэтай партыі вырашана стварыць новую сацыялістычную партыю пад назвай: Сацыялістычная партыя Італіі пралетарскага адзінства. Мэтанакіраванасць новай партыі — барацьба за нейтральнасць Італіі, за мір, барацьба супроць каланіялізму неразлучна з барацьбой працоўных мас за сацыялізм.

5 студзеня на Кубе створана маладзёжная арганізацыя пад назвай «Саюз маладых камуністаў Кубы». Арганізацыя аб'ядноўвае ў сваіх радах маладое пакаленне барацьбітоў, якія на практыцы даказалі сваю рашучасць у абароне кубінскай рэвалюцыі.

8 студзеня ў Беластоку адбылося злучэнне двух энергетычных сістэм — Польшчы і Беларусі. Апрача эканамічнай карысці злучэнне паляпшае адбор электраэнергіі на ўсёй тэрыторыі Беласточчыны.

4 студзеня каля Бялграда (Югаславія) здарылася трагічная катастрофа на чыгунцы. У выніку яе загінула каля 60 пасажыраў.

6 студзеня на шашы Беласток — Заблудаў бандыты забілі шафёра таксі Уладзіслава Валэйшу. На працягу некалькіх гадзін працаўнікам міліцыі ўдалося затрымаць небяспечных бандытаў.

СПОРТ

# Маем большыя апетыты

— Значыць, я павінен характарызаваць становішча ў міжнароднай шаблі? — заклапочана гаворыць перадавы шабліст свету Ежы Паўлоўскі. — Я не ведаю, ці змагу чытачам «Нівы» сказаць штосьці цікавае.

Наш майстар спорту аднак слаба бароніцца і нарэшце здаецца.

Праз некалькі мінут мы сядзім ужо побач у машыне, якая вязе шаблістаў на спатканне з вучнямі Сельскагаспадарчага тэхнікума ў Дайлідах, а Ежы Паўлоўскі знаёміць нас са становішчам у міжнародным фехтаванні перад набліжаючайся алімпіядай у Токіо.

— Лічу, што ў добрай падрыхтоўцы дапамагаюць дзве справы: частыя выступленні і інтэнсіўная трэніроўка. Перад гульнямі на першынства свету, якія адбыліся ў Гданьску (Польшча заваявала залатую медаль), я меў шмат міжнародных сустрэч. А выступленні ў турнірных трэніроўках былі папоўнены індывідуальнай трэніроўкай. Я трэніраваўся доўга і інтэнсіўна, зусім не баяўся, што гэтага будзе замнога. Яшчэ раз давялося пераканацца, што варта моцна трэніравацца.

**— Як вы ацэньваеце шанцы палякаў на Алімпіядзе?**

— Магу адказваць толькі за сябе, — гаворыць Паўлоўскі. — Маю апетыт на залатую медаль. Прашу толькі мяне правільна зразумець. Я лічу, што маючы такіх трэнераў, як нашы, я магу мець патрэбную па-

(Працяг на стар. 7)

**На здымку Ежы Паўлоўскі дзякуе каню за прыемную прагулку.**

УСПАМІНЫ КАМУНІСТАЎ

3)

Уладзімір Станкевіч

# АДЗІН З МНОГІХ

Найгоршым для мяне няшчасцем, з якім я ніяк не мог пагадзіцца, была немагчымасць далей вучыцца. І за гэта я найбольш меў прэтэнзіі да бацькоў за выезд з Пензы. Я прагнуў вучобы больш як хлеба. Калі мы, прыехаўшы ў Берастравіцу, цярпелі голад, я хадзіў у школу галодны, але задаволены, што вучуся, хоць і вучыцца на чужой, незразумелай мове было нялёгка.

Перад заканчэннем навучальнага года, апошняга года маёй школьнай навукі ў пятым класе, настаўніца Ядвіга Малыніч, якая была таксама і выхавацелькай нашага класа, ведаючы аб маім становішчы, правяла са мной такую гутарку:

— Я ведаю тваё становішча і твае перажыванні. Хачу дапамагчы табе, бо ты гэтага заслужыў сваёй пільнасцю і любоўю да навукі. Я хачу паслаць цябе вучыцца на мой кошт у духоўную семінарыю, бо з цябе можа быць добры ксёндз.

— Я ж праваслаўны, — заўважыў я.

— Нічога, перахрысцім на каталіцкую веру. Справа простая, зробіць гэта мой брат, ксёндз.

— Але ж я не маю схільнасці да духоўнага стану... Я быў бы вам вельмі ўдзячны, каб вы дапамаглі мне вучыцца ў гімназіі.

— Не, хлопча! Альбо — альбо...

Што ж, ксёндзам быць я не хацеў і таму адмовіўся ад такой прапановы. Прабаваў я яшчэ некалькі разоў прасіць яе дапамагчы мне вучыцца, але за кожным разам адказ быў аднолькавы:

— Пойдзеш вучыцца на ксяндза, дык памагу.

Пяты клас я закончыў з пяцёркамі па ўсіх прадметах, але на гэтым дзверы школы перада мной зачыніліся. Маючы чатырнаццаць год, змушаны быў пайсці на працу ў маёнтак графа Касакоўскага, каб зарабляць на кавалак хлеба. Але цяжкая праца не забіла ў мяне прагі да вучобы і свядомасці. І тут вось дапамагло мне знаёмства з Уладзімірам Лагадой, а асабліва з Антонам Расінскім. Я атрымоўваў ад іх кніжкі, на чытанне якіх я прысвячаў кожную свабодную хвіліну.

Маім жаданнем вучыцца асабліва зацікавіўся Антон Расінскі. Ён не толькі даваў мне кніжкі, але адпаведным даборам іх дапамагаў мне здабываць патрэбныя веды. Дзякуючы гэтаму мая самаадукацыя ішла паспяхова.

У маёй самаадукацыі адыграла таксама нейкую дадатнюю ролю і наймалодшая сястра графа Станіслава Касакоўскага — Зося, мая равесніца. Я бліжэй пазнаёміўся з ёю, калі мы жылі ў маёнтку Берастравіца і мне даводзілася бываць у іх палацы. З размовы са мною яна даведалася, што я люблю чытаць геаграфічныя і гістарычныя кніжкі. Завяла раз мяне ў палацовую бібліятэку і, калі заўважыла, што я не магу адарваць вачэй ад паліц з кніжкамі, дала мне некалькі кніжак і запрапанавала прыходзіць па свежыя.

Сувязь з Зосяй я парваў, калі ўступіў у Камсамол. Лічыў, што нельга ўтрымоўваць сяброўскую сувязь са сваім класавым ворагам. Але, калі праз нейкі час я прыпадкова сустрэўся з ёю ў мястэчку і яна спытала, чаму не прыходжу па кніжкі, я не адважыўся сказаць ёй аб сапраўднай прычыне, а за непрыход зваліў віну на недахоп часу. Не знайшоў я таксама ў сабе дастаткова адвагі адмовіць просьбе графянкі правясці яе да маёнтку, увайсці з ёю ў палац і ўзяць з яе рук дзве кніжкі. І што ж, зноў утрымоўвалася культурная сувязь з класавым ворагам, аб чым я, вядома, нікому з таварышоў не заікнуўся. Гэту сувязь парвала паліцыя, арыштоўваючы мяне ў студзені 1927 года. Але аб гэтым потым.

## НАЦЫЯНАЛЬНАЕ ПЫТАННЕ

# ЯК РАЗУМЕЎ ЛЕНІН

Пытанне складанае, жывое, не церпіць штыўных рамак, хвалюе мільёны людзей, выклікае тысячы спрэчак і сотні інтэрпрэтацый. Такім з'яўляецца нацыянальнае пытанне. У сучасных абставінах займае яно важнае месца ў дзейнасці ўсіх камуністычных і рабочых партый. Чаму? Каб адказаць на гэтае і шмат іншых «чаму» ў нацыянальным пытанні, рэдакцыя прапануе ўвазе сваіх чытачоў цыкл артыкулаў пад агульным загалоўкам «Як разумеў Ленін». Вывучэнне ленінскага разумення нацыянальнага пытання мае надзвычай вялікае значэнне ў разуменні істоты нацыянальнай палітыкі камуністычных і рабочых партый, істоты і значэння працэсаў, якія адбываюцца на міжнароднай арэне.

Мінула 40 год з таго часу, калі смерць забрала ад чалавецтва аднаго з яго найлепшых розумаў. Засталіся ідэі Леніна, якія сёння не менш жывыя, чым былі 40 год таму назад. Яны жывуць і ў ленінскай навуцы па нацыянальным пытанні.

Марксізм - ленінізм глядзіць на нацыянальнае пытанне як на адно з важных пытанняў грамадскага жыцця. Ахоплівае яно праблемы паходжання нацый і характару нацыянальных рухаў, вызвалення прыгнечаных народаў і стварэння прынцыпіяльна новых суадносін паміж імі, аснаваных на раўнапраўі, узаемнай пашане, дружбе і даверу.

У супрацьлегласць буржуазным нацыяналістам марксісты - ленінцы лічаць нацыянальнае пытанне часткай агульнага пытання аб сацыялістычнай рэвалюцыі, аб дыктатуры пралетарыята, аб пабудове сацыялізма.

Заснавальнікі навуковага сацыялізма Маркс і Энгельс выкрылі розныя ідэалістычныя тэорыі і ўпершыню далі матэрыялістычнае разуменне нацыянальнага пытання. Буржуазнае грамадства не можа існаваць без нацыянальнага прыгнёту, а ўнутры нацый гэтага грамадства няма і не можа быць класавага адзінства. Эканамічнай асновай нацыянальнага прыгнёту і нацыянальнай варожасці з'яўляюцца панаванне прыватнай уласнасці на сродкі вытворчасці і эксплуатацыя чалавека чалавекам. Знішчэнне нацыянальных антаганізмаў і іх ідэалагічнага выразу — шавінізма і нацыяналізма — магчыма толькі са знішчэннем капіталізма. Нацыянальнае пытанне можа быць вырашана толькі праз пралетарскую рэвалюцыю, на базе сацыялізма. «У той жа меры, у якой будзе знішчана эксплуатацыя аднаго індывідуума другім, знішчана будзе і эксплуатацыя адной нацыі другой.

Разам з анатаганізмам класаў унутры нацый падуць і варожыя суадносіны нацый між сабой».

Маркс і Энгельс вучылі, што народ, які прыгнятае іншыя народы, не можа быць свабодным, бо, прыгнятаючы іншыя народы, ён куе свае ўласныя ланцугі. Наяўнасць нацыянальнага прыгнёту, варожасці тармозіць развіццё класавай барацьбы пралетарыята, спыняе рост яго самасвядомасці.

Маркс і Энгельс высунулі ідэю пралетарскага інтэрнацыяналізму. Баявы заклік «Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!» служыць асновай інтэрнацыяналісцкай тактыкі рабочага класа і яго рэвалюцыйных партый.

Творцы навуковага сацыялізма вучылі пралетарыят і яго партыю ацэньваць той ці іншы нацыянальны рух, зыходзячы з канкрэтна-гістарычных умоў і задач класавай барацьбы рабочага класа. Пралетарыят павінен падтрымліваць нацыянальныя рухі пастолькі, паколькі яны з'яўляюцца рэвалюцыйнымі, адказваюць агульным задачам рэвалюцыйнай барацьбы рабочага класа, аслабляюць пазіцыі капіталізма, садзейнічаюць прагрэсіўнаму развіццю грамадства.

Пасля смерці Маркса і Энгельса іх погляды на нацыянальнае пытанне былі або забыты, або скажаны і апошлены апартуністамі II Інтэрнацыянала.

Вялікая заслуга Леніна, што ён адрадзіў рэвалюцыйныя ідэі марксізма па нацыянальным пытанні, адбіў атакі на яго з боку апартуністаў II Інтэрнацыянала, развіў гэтыя ідэі далей. Неацэнная заслуга Леніна як геніяльнага тэарэтыка нацыянальнага пытання, што ён, апіраючыся на зыходныя ўказанні Маркса і Энгельса, упершыню ў гісторыі марксізма выпрацаваў тэарэтычную праграму і палітыку партыі па нацыянальным пытанні. Бессмяротная заслуга Леніна, што ён не толькі апрацаваў праграму рэвалюцыйнага вырашэння нацыянальнага пытання ў Расіі, але і выявіў заканамернасці барацьбы прыгнечаных народаў усяго свету, абаснаваў непазбежнасць гібелі каланіялізма, распаду каланіяльнай сістэмы імперыялізма, вызначыў асноўныя шляхі і сродкі барацьбы прыгнечаных народаў за нацыянальную незалежнасць, дэмакратыю і сацыялізм.

Ленінская тэарэтычная праграма і палітыка па нацыянальным пытанні атрымала сваё далейшае творчае развіццё ў рашэннях КПСС і брацкіх

(Працяг на стар. 5)



На здымку працаўнікі фермы камуністычнай працы сельгасарцелі імя Кірава, Гомельскай вобласці — актыўныя ўдзельнікі мастацкай самадзейнасці (злева направа): Людміла Матвеева, Пётр Мацкоў, Еўфрасінія Хранкова, Раіса Матвеева, Любоў Машына на рэпетыцыі.

**ВЕСТКІ БССР**

## ІНІЦЫЯТЫВА І АКТЫЎНАСЦЬ МАС

У барацьбе за ажыццяўленне гістарычных рашэнняў XXII з'езда КПСС актыўны ўдзел прымаюць прафсаюзы Беларусі. Цяпер у іх шарэгах налічваецца звыш двух мільёнаў ста тысяч чалавек. Па ініцыятыве прафсаюзаў у рэспубліцы створана і працуе звыш 3,5 тысячы завадскіх і цэхавых вытворчых нарад, у складзе якіх звыш 150 тысяч чалавек, у тым ліку каля 100 тысяч рабочых; 872 грамадскіх канструктарскіх бюро, звыш 400 грамадскіх бюро тэхнічнай інфармацыі, каля 2600 творчых комплексных брыгад, 116 саветаў наватараў, сотні груп эканамічнага аналіза і шмат іншых грамадскіх аб'яднанняў. У іх складзе творча працуе звыш 30 тысяч інжынераў, тэхнікаў, рабочых і служачых.

Сапраўды масавы характар у рэспубліцы прыняў рух за камуністычную працу. Цяпер у гэтым руху ўдзельнічае каля 750 тысяч чалавек. Звыш 12 тысяч калектываў, брыгад, змен, фермаў, аддзелаў, якія аб'ядноўваюць каля 105 тысяч працоўных, ужо ўдастоены звання камуністычных.

(Працяг на стар. 5)

## НА КАРЫСЦЬ АГУЛЬНАЙ СПРАВЫ

Перыядычны друк Савецкай Беларусі ўдзяляе шмат увагі мацнеючым з кожным годам кантактам паміж беларускай і польскай навукамі. Нядаўна газета «Звязда» ад 3 студзеня г.г. змясціла цікавы артыкул члена - карэспандэнта АН БССР Н. Каменскай аб пабыўцы ў нашай краіне групы беларускіх гісторыкаў на запрашэнне Інстытута гісторыі партыі пры ЦК ПАРП. Як вядома,

(Працяг на стар. 4)




БЕЛАРУСКАЯ ТЭМАТЫКА Ў ПОЛЬСКАЙ ПРОЗЕ

# ЖЫЦЦЁ ДЛЯ ІДЭІ

«...Размаўляючы, увайшлі ў лес. Моладзь са Шчытоў сабралася ўжо на паляне. Зразумела, што з'явіліся тут тайком: Павел Пасынюк, браты Карпюкі, малы Петручук, а з дзяўчат — Міля Касоўская. Вочы ўсіх звярнуліся ў бок прыбыўшай. Гэта яна павінна была заснаваць у Шчытах маладзёжную ячэйку. Вера пачала выступаць. Усе слухалі ўважліва...»

Падаюць першыя словы, важкія і пераканаўчыя, словы, заключаючыя глыбокую жыццёвую праўду. Належалі яны да Веры Харужай ці проста Веркі, як яе пяшчотна называлі людзі, з якімі дзяліла цяжкія гады падполля і якім гатова была аддаць усе свае маладыя сілы. Аб такой Верцы даведваемся з кнігі Ганны Мушынскай - Гафмановай п.з. «Верка і яе таварышы». Кніга нядаўна з'явілася ў нашых кнігарнях у выданні варшаўскіх «Іскраў».

Яна павінна выклікаць у нас самую жывую цікавасць. Дзеянне ж тут разгортваецца на Беласточчыне, дзе працавала ў рэвалюцыйна - вызваленчым руху Вера Харужая, якая ўзначальвала Сакратарыят ЦК КСМ Заходняй Беларусі. Перад намі ўзнаўляюцца карціны яе дзейнасці. Гэта часам звычайныя будні прафесіянала - рэвалюцыянера, як вось гэтая сустрэча з маладзёжным актывам ў шчытніцкім лесе, а часам падзея вялікай вагі, калі Вера Харужая выступае ў Маскве ад імя сваіх таварышоў на III З'ездзе Камуністычнай Рабочай партыі Польшчы ў 1925 годзе.

У кнізе не знойдзем суцэльнай, поўнай карціны дзейнасці Веркі. Аўтар намагаўся перш за ўсё паказаць яе беластоцкі перыяд. Знаёмыя назвы вёсак, мястэчак, беластоцкіх вуліц. Г. Мушынская-Гафманова вяртае ім іх даўні выгляд, напаўняе кліматам мінулых гадоў. Вось дзень Першамая 1932 года ў Беластоку. Яму прысвечаны асобны раздзел. Гэта амаль пісаны на жыва рэпартаж, адлюстроўваючы настроі жыхароў горада, паказваючы вясеннюю маладосць ідэі, акрыляючай працоўных і паказваючы хмурныя твары санавітых беластоцкіх абывацеляў.

Перагортваем старонкі кнігі. На Верку і яе сяброў абрушваюцца праследванні, здзекі, каты робяць усё, каб патаптаць іх чалавечую годнасць. Аднак не ў сілах яны зламаць гэтых стойкіх людзей на вядомым працэсе «133» у Беластоку. Не суддзі ці пракурор тут абвінавачваюць, а Вера і яе таварышы гэта робяць, накіроўваючы моцныя словы праўды аб несправядлівасці ў адрас улад. Веру Харужую заўсёды называлі ўсе «Мысам Добрай Надзеі». Столькі ў яе заўсёды было невычэрпнай веры ў лепшую будучыню людзей. І гэтай верай яна натхняла другіх. Ужо з турмы піша яна ў сваім лісце да любага Сцяпана — таксама прафесіянальнага рэвалюцыянера: «...Запрашаеш мяне, мілы, так пераканаўча на каток, што адразу згаджаюся. Трэба толькі пачакаць — трошкі — дзесяць год. Турбуе, аднак, мяне вось што: ці слізгаюцца трыццацігадовыя жанчыны. Ну вось тыя ўжо пасля трыццаткі. Таму што столькі годзікаў мне тады будзе. Трыццацігадовая Верка — цуды на свеце...»

Чытач не забудзе зместу лістаў Веры Харужай з турмы да маці, сястры і Сцяпана. Яны кранаюць нас за сэрца сваёй незвычайнай чалавечай сардэчнасцю. І вельмі добра сталася, што аўтар кнігі палічыў карысным змясціць гэтыя лісты на яе старонках. Дапаўняюць жа ж характарыстыку нашага героя — сапраўднага камуніста. У заканчэнні кнігі Г. Мушынская-Гафманова знаёміць нас з абставінамі, у якіх Вера Харужая загінула ў 1942 годзе ў Віцебску з рук гітлераўскіх катаў. І так абрываецца гэтае прыгожае жыццё Веркі, якая служыла найлепшай справе — вызваленню людзей з-пад сацыяльнага і нацыянальнага прыгнёту, служыла неперможнай камуністычнай ідэі.

Кнігу Ганны Мушынскай-Гафмановай «Верка і яе таварышы» нельга не прачытаць.

**АНАТОЛЬ САЕВІЧ**

## ЯК РАЗУМЕЎ ЛЕНІН

(Працяг са стар. 3)

камуністычных і рабочых партый.

Як заданні пабудовы камунізма ў СССР і пабудовы сацыялізма ў краінах народнай дэмакратыі, так і інтарэсы паступальнага развіцця ўсіх краін свету, высоўваюць усё новыя праблемы ў галіне нацыянальнага пытання.

XIII пленум нашай партыі ўказаў на неабходнасць узмацнення барацьбы супраць буржуазнай ідэалогіі і ў прыватнасці супраць рэакцыйных ідэй буржуазнага нацыяналізму і касмапалітызму; патрабаваў паляпшэння працы ў выхаванні грамадства ў духу сацыялістычнага патрыятызму і інтэрнацыяналізму.

У гэтых абставінах выключна важнае значэнне мае творчае прымяненне марксісцка - ленінскай тэорыі нацыянальнага пытання.

ХРОНІКА СФОС

## ШТО НОВАГА?

У спаборніцтве школьных гурткоў СФОС першае месца заняла пачатковая школа ў Забродзю, Сакольскага павета. Яна ж вызначана на краёвы конкурс. Каб здабыць грошы, гэтая школа збірала ягады, грыбы, капала хрэн — усё гэта прадавала, і такім чынам сабрала 4 тыс. зл.

Школа ў Аўгустове (Бельскі пав.) аказалася на 9 месцы ў 20 перадавых. Некаторыя нашы школы таксама з Сакольшчыны, як Жукі, Сухінічы, таксама належаць да перадавых. А педагагічны ліцэй у Бельску сабраў аж 10 тыс. зл., пераважна са сваіх канцэртаў (прыемнае з карысным).

Разам школы сабралі 513 тыс. зл. На 113 тысяч больш плана.

*

Гадавы план збору на СФОС у ваяводстве да 30 лістапада быў перавышаны на 2 мільёны злотых, што склала суму 21 мільён злотых. Перадавымі паветамі застаюцца Монькі, Аўгустоў, Лапы, Сямяцічы. Гайнаўскі — па традыцыі на канцы — 16 месца.

*

18 мільёнаў зл. у 1963 годзе выдадзена на інвестыцыі. Найбольш — 10 мільёнаў — на культуру. Іменна, калі культура, дык у першую чаргу дамы культуры. Коштам 800 тыс. зл. пабудаваны вясковы дом культуры ў Кузніцы. Засталося абсталяваць толькі і — развівайся, культура. Дом вялікі. Адна толькі глядзельная зала на 200 месц.

*

На 20-годдзе Народнай Польшчы СФОС рыхтуе ў Беластоку вялікую ўрачыстасць: адкрыццё Дома Тэхніка, збудаванага за 6 мільёнаў СФОС-аўскіх злотых.

*

Недзе ў 1966 годзе ў Беластоку мае пачацца будова Дома культуры ВОП. На дакументацыю гэтай інвестыцыі ўжо СФОС запланаваў 300 тыс. зл. А ўвесь дом будзе каштаваць 10—12 мільёнаў. Стане ён недалёка ад беластоцкага звярынца, у квартале, які цяпер вельмі разбудоўваецца.

вл.



## КОНКУРС НАРОДНЫХ УМЕЛЬЦАЎ

29.XII.63 г. праўленне аддзела БГКТ у Мілейчыцах арганізавала конкурс народнага ткацтва і вышыўкі. У конкурсе ўдзельнічала 45 экспанатаў. Першае месца і першую ўзнагароду 700 злотых журы прызнала Надзі Вішэнка з Мікуліч за ільняное радно з вельмі цікавымі народнымі ўзорамі.

Дзве другія ўзнагароды, па 250 зл. кожная, прызнаны Ніне Уласюкевіч з Зубачоў за радно і Серафіне Карнелюк за вышыўку ручніка народнымі ўзорамі.

Дзве трэція ўзнагароды атрымалі Крысціна Пытэль з Мікуліч за льняную спадніцу і Марыся Габрышук з Мядзвежыкаў за вышыўку ручніка.

На здымку ільняное радно Надзі Вішэнка.

**Сяргей Крэйза**
Мілейчыцы

## ЁСЦЬ МУКА — БУДЗЕ ХЛЕБ

Млынар Кастусь Крышань мае заўсёды поўныя рукі работы. Млын у Бандарах (Беластоцкі павет) працуе поўным ходам. За восем гадзін працы праз рукі млынара Крышаня праходзіць у сярэднім па 7 тон збожжа.

Бандароўскі млын як астравок сярод шматлікіх вёсак. Аж з-пад Старога Ляўкова ў Гайнаўскім павеце і з-пад Ялоўкі едуць сяляне ў Бандары малоць збожжа.

Млынар Крышань не заседзіцца без працы. Хваляць яго людзі. Гавораць, што выдатна знае сваю прафесію.

Між іншым і таму, мабыць, бандароўскі млын працуе без страт. Нават дае даволі вялікі прыбытак.

Калісь, калі млын быў прыватнай уласнасцю, уласнік яго так разжыўся, што пабудаваў сабе аж два велізарныя дамы, хаця і аднаго яму было замнога. Проста не меў дзе дзяваць грошай. Цяпер млын знаходзіцца ў распараджэнні Прэзідыума ГРН у Юшкавым Грудзе. Даход, які ён дае, ідзе на карысць цэлай грамады. Між іншым, за выгаспадараваныя грошы пралажаны брук на падворку млына. Дагэтуль амаль круглы год было там такое балота, што не адзін воз загразаў вышэй калёс.

(вр)

фота аўтара

**На здымку: млынар Кастусь Крышань. Любіць ён сваю прафесію. Ведае, што працуе для таго, каб людзі мелі хлеб.**

## ДАШКІ ДЛЯ ПАДАРОЖНЫХ

Хто ездзіў аўтобусам ПКС, ведае, як нявыгадна чакаць яго на прыпынку ў голым полі. Асабліва ў непагадзь.

Гаспадары грамады Юшкаў Груд, у Беластоцкім павеце, вырашылі ліквідаваць гэтую нявыгаднасць. Яны знайшлі сродкі і на кожным прыпынку аўтобуса ПКС на сваёй тэрыторыі пабудавалі звычайныя дашкі. У непагадзь ці летнюю спёку падарожныя могуць схавацца пад гэтыя дашкі і седзячы пачакаць аўтобуса. (вб)

## ІНІЦЫЯТЫВА І АКТЫУНАСЦЬ МАС

(Працяг са стар. 3)

З мэтай прыцягнення шырокага актыву да барацьбы за ўдасканаленне ўмоў працы, па ініцыятыве прафсаюзаў на прадпрыемствах праводзяцца штогадовыя масавыя грамадскія агляды аховы працы. У рабоце па паляпшэнню ўмоў працы рабочых і служачых у Беларусі ўдзельнічае звыш 45 тысяч грамадскіх інспектараў, членаў камісій аховы працы і няштатных тэхнічных інспектараў.

## ПКО АДКРЫВАЕ СВЕТ

Усеагульная ашчадная каса ўвяла новы від ашчадных кніжак, уласнікі якіх замест працэнтаў атрымоўваюць прэмію ў якасці бясплатнага адпачынку на курорце першай катэгорыі ў краіне або дармовую замежную экскурсію. Лясаванне турыстычных прэмій адбываецца чатыры разы ў год: 18 сакавіка, 18 чэрвеня, 18 верасня і 18-га снежня. Каб кніжка прыняла ўдзел у лясаванні, павінна на ёй быць запісана найменш 3.000 злотых. Калі на кніжцы знойдзецца сума, якая з'яўляецца шматкратнасцю 3000, тады шанцы адпаведна ўзрастаюць. На кожныя паўтары тысячы ашчадных турыстычных кніжак з трохтысячнай ашчаднасцю прыпадае ў кожным квартальным лясаванні па 14 прэмій, а ў тым ліку чатыры дарэмныя пуцёўкі на замежныя экскурсіі. Апошнія дзесяць — гэта пуцёўкі на адпачынак у краіне.

Апошняе лясаванне турыстычных ашчадных кніжак адбылося ў Варшаве 18-га снежня мінулага года. 12 шчаслі'ўцаў паедзе наведаць чужыя краіны, 30 асоб будзе на кошт ПКО адпачываць на курортах першай катэгорыі на месцы. (вр)

зразумелі, што гурткі працуюць, шукаюць рэпертуар, самі між сабой дагаварваюцца і адведваюць адны другіх. Дапамагаюць ім мясцовыя партарганізацыі і настаўнікі.

### ЧАГО ЧАКАЕМ АД ГП?

Адной з вельмі важных умоў добрай дзейнасці аддзелаў з'яўляецца інструктаж і кантроль з боку Галоўнага Праўлення. Цяжка абвінавачваць за балаган у дакументацыі актыў бельскага аддзела. Калі ёсць штатны працаўнік Галоўнага Праўлення ў аддзеле, ён павінен гэта рабіць. Не можна складаць віны на членаў праўлення аддзела, людзей, якія маюць прафесіянальную працу, а ў таварыстве іх грамадская праца. Гэта трэба залічыць як мінус штатных працаўнікоў Галоўнага Праўлення за тое, што неўпарадкаваны папкі з дакументамі гурткоў. Прывяду адзін прыклад. У папцы гуртка з Дзянісак ёсць пяць пратаколаў са сходаў гуртка і два спіскі членаў. Адзін пратакол з 24.I.1962 г., а аж чатыры са справаздачавыбарчых сходаў гуртка ў 1963 г. (22.II, 7.III, 20.III і 7.XI.1963 г.). Навошта і каму спатрэбілася праводзіць у адзін год аж чатыры справаздача - выбарчыя сходы? (На кожным выбіралі праўленне). У пратаколах я вычытаў толькі тое, што «...Забраў голас інструктар, які сказаў, што дагэтуль праца была мала эфектыўная і ў наступным годзе мы павінны рушыць...» Зусім не паказаны справы якімі жыве гурток. Інструктары не заўсёды памятаюць, чым з'яўляюцца пратаколы для кіраўніцтва аддзела. Гэты прыклад сведчыць аб тым, што ніхто з Галоўнага Праўлення не кантраляваў папак гурткоў, а калі кантроль і быў, дык не скантралявана рэалізацыя яго ўказанняў. Членскія складчыны не былі б такой праблемай як цяпер, калі б быў уведзены кантроль іх аплочвання. А як у Бельскім аддзеле? Інструктар лічыць толькі грошы, бо трэба выканаць план 5000 зл. Інструктар не можа адказаць на пытанне, які гурток найлепш аплочвае складчыны і якія мае месячныя ўплывы грошай. Не можа адказаць на гэтыя пытанні, бо не вядзецца афіцыяльных запісаў. Маркі ў членскія білеты квітуюцца на асобных паперках. Справа дробная, але як важная ў працы аддзела! Хто павінен гэта направіць? Думаю, штатныя працаўнікі Галоўнага Праўлення. Між іншым і інструктар у аддзеле з'яўляецца працаўніком ГП. Там ён разлічваецца як са сваім працадаўцам. Грамадскі актыў праўлення аддзела таго не зробіць.

## З ІСКРАЙ АПТЫМІЗМУ

**НЕКАЛЬКІ СЛОЎ АБ СУЧАСНАЙ ПРАЦЫ БЕЛЬСКАГА АДДЗЕЛА.**

У апошні час адбылося пасяджэнне праўлення аддзела БГКТ у Бельску. На парадку дня сталі справы працы вясковых гурткоў. Сабралася 12 чалавек — членаў праўлення і актыву. Прыехалі нават людзі з вёскі. Пасяджэнне не адбывалася доўга. Таварышы аднагалосна сцвердзілі, што многа не можам сказаць аб працы гурткоў, бо мы не былі ў гуртках. Найважнейшае заданне — як найхутчэй выехаць у гурткі. Хтосьці прапануе апрацаваць тэзісы, а на наступным пасяджэнні іх абмеркаваць і потым з імі выехаць у вёскі. Сярод таварышоў парушэнне: «Зноў трэба адкладаць да наступнага пасяджэння, і зноў не ўдасца.» Але тут жа чую голас: «Таварыш старшыня! Прапаную зараз актыву выдаць камандзіроўкі. У гуртках заняцца наступнымі справамі: 1. Праца гуртка ў святле пастаноў II-га Пленума ГП БГКТ. Матэрыял можна знайсці ў «Ніве». 2. Скантраляваць, як члены гуртка аплочваюць членскія складчыны. Ці скарбнік мае маркі і як за іх разлічваецца перад аддзелам? Чаму члены не плоцяць складчыны? 3. Хто ў гуртку займаецца падпіскай «Нівы». Заняцца пашырэннем падпісчыкаў «Нівы». 4. Прагледзець дакументацыю гуртка (колькі было сходаў гуртка, калі і як праводзіліся выбары ў гуртку, ці вядзецца актуальна ў картатэцы рух членаў). 5. Правясці індывідуальныя размовы з членамі праўленняў гурткоў і актывам. 6. Правясці кантроль працы інструктара ў гуртках. 7. Пасля пабыўкі ў гуртках скласці справаздачы ў аддзел. Прэзідыум аддзела апрацуе канкрэтныя ўказанні да далейшай працы з гурткамі».

Таварышы аднагалосна прымаюць пастановы і ахвотна з іскрынкай надзеі бяруць камандзіроўкі.

Іскра надзеі ў вачах бельскага актыву — гэта аптымізм. Нарэшце можа Бельскае праўленне аддзела займецца тым, што яму даручылі дэлегаты павятовай канферэнцыі.

**АЛЯКСЕЙ КАРПЮК**






Глухі

## У КАГО НАВУЧЫЎСЯ?

На панадворку бацька вяжа хворaст у пучкі, а сын намагаецца загнаць у хлеў разбрыканае цяля. Са злосці абкідае яго самай адборнай лаянкай.

Бацька слухаў, слухаў, ды, не сцярпеўшы, кажа сыну:

— Іван! Ідале паганы! Якое халеры, антыхрысце ты няхрышчаны, праклінаеш свой дабытачак, каб цябе маланка спаліла з яснага неба, чарцяня ты лазатае. І ў каго ты ўдаўся, гэрад такі? Каб ты халеры дастукаўся, сатана ты рагатая. І ў каго ты навучыўся гэтак брыдка лаяцца, скажы, аблуплены, га?

**Міхась Красоўскі**
Малынка

## ПРЫЧЫНА

Міліцыянер, які рэгуляваў вулічны рух, убачыў, што нейкая бабуля сышла з тратуару, пры чырвоным святле накіравалася на праезжую частку і павярнула ў напрамку да яго. Спыніўшы дзесятак машын, міліцыянер падышоў да жанчыны і спытаў:

— Што здарылася?

Тая ўсміхнулася і, палажыўшы руку на партупею ахоўніка парадку, сказала:

— Нічога. Я толькі хацела сказаць вам, што ваш нумар супадае з нумарам майго любімага шапэнаўскага вальса!

## Усякая ўсячына

З такім лепей не задзірацца, праўда?






Хто ні на што не здольны, той высмейвае другіх.

## КУР'ЁЗЫ

**ПАД МАСКАЙ...**

Пяць танцоўшчыц стрыптызу ў адным з кабарэ Кэмбрыджа аб'явілі забастоўку, патрабуючы павышэння платы. Гаспадар кабарэ адразу ж наняў пяць студэнтак Кэмбрыджскага універсітэта, якія згадзіліся выступаць за прапанаваную плату. Студэнткі, праўда, выставілі адзіную ўмову; распранаючыся на сцэне дагала, яны захоўваюць на твары маскі, каб не быць пазнанымі і не мець непрыемнасцей з універсітэцкімі ўладамі.

«Ліберасьён»



У святліцы абвалілася столь, і ўся культурная работа была завалена.

## БЕЗ ДАКЛАДЧЫКА

— Сядзець дык мы сядзім, а што рабіць, не ведаю, — сказаў сакратар. — Апошні аўтобус прайшоў, а дакладчыка як не было, так і няма.

— Хутчэй вырасце шэрсць на яйку, чым убачыш дакладчыка, — данёсся голас з кутка.

— Свінства! — абурыўся жаночы голас. — Адарвалі людзей ад працы і трацім час папустому.

Тут да стала праціснуўся дзед Мірон, зняў шапку, пакланіўся на тры бакі і сказаў:

— За дакладчыкам сумуем дарма. Мы самі з вусамі. Калі ўжо сабраліся, давайце абмяркуем свае справы. Скажу я вам, аднавяскоўцы, слова простае — беражыце каня. Над конскім лёсам плакаць трэба. У нас конь робіцца рэдкасцю. На трыццаць тысяч паменшылася конскае пагалоўе, а апошнім часам яшчэ паменшылася на шэсць тысяч. Жывем мы ў матэматычнай эпосе, дзе ўсё лічана - пералічана. За два гады конь з'ядае вартасць трактара. Не нагамі цягне конь, а пузам. Цяпер кожны круціць вус, як набыў ужо «Урсус».

— «Зэтар» — лепшы! — крыкнуў Міхась - трактарыст.

— Можна змяніць, — згадзіўся Мірон. — У кожны гаспадарскі двор заязджае свой «Затор».

— Ну і Мірон! — пачуўся захоплены голас. — Меле, бы гарох у кацялку прамывае!

— На Мірона раток не павесіш замок, — падтрымаў Мішка - трактарыст, а Мірон непарушна працягваў далей:

— Вялікая конская заслуга перад чалавецтвам. Конь разам з намі цягнуў на хрыбце гаспадарку, на ратным полі сустракаў ворагаў. Помнік паставіць трэба каню! Конскай рамантыцы прыходзіць канец, дзеці вашы не будуць захапляцца жарабяткам.

— Задаволяцца трактаранятам, — кінуў рэпліку Міхась.

Дзед Мірон зграміў позіркам трактарыста і адсёк:

— Трактаранят не бывае.

— Бываюць, цацачныя, — засупярэчыў жаночы голас.

— Ціха! — спыніў спрэчкі Мірон. — Прашу не перарываць конскага пытання. З-за каня ў паэзіі адбудзецца змена. Па-новаму загучыць верш:

Зіма. Сяляне
пераможна
Снегакамбайнам
чысцяць шлях.

— Ядуць цябе мухі! — урачыста крыкнуў Міхась — трактарыст. — Дзед наварочае такога, што я трактарам не выцягну.

— Ціха! — прытупнуў дзед нагой. — Апусцеюць нашы хлявы без коней, а магчыма і кароў не будзе. Тэхніка крочыць у ботах - хуткаходах. Магчыма вёска будзе піць малако ў парашку.

— А адкуль тэты парашок будзе? — пацікавіўся жаночы голас.

— Ад каровы... — сказаў дзед і запнуўся, потым выпаліў: — Малочная карова перапрацуецца ў парашок, вось і гатовы прадукт.

Усе засмяяліся, а сакратар паспешліва пісаў пратакол: «Не глядзячы на адсутнасць дакладчыка, сход адбыўся. Дзед Мірон выступіў з дакладам аб нерэнтабельнасці ўтрымання коней у гаспадарцы і неабходнасці пераключэння на механічную цягу. Сход закончыўся спяваннем «Эх, вы, коні, вы коні стальныя».

*Дзядзька Лявон*

## Пляткаркі

Цёткі Любы хата з краю,
Жыве яна, як у раю.
«Камітэтам» называюць:
Усе справы там рашаюць.
Кожны дзень там поўна хата
Бабаў дрэнных, пыскаватых;
Поўна хата ідыётак
Далучаецца да плётак.
Цётка Стэпка пачынае:
— Насця з голаду ўмірае.
Цётка Фіма кажа жыва:
— У нас у вёсцы стала дзіва.
— Якое?
— Якое?
— Якое?
— У Федзі дзіця чужое...
А ў Алёшы заказное.
Цётка Галя (па сакрэту):
— Мо' не чулі вы аб гэтым,
Што ў нашае Аленкі
Стаяць хлопцы ў тры калейкі.
Цётка Волька дадае:
— Надзя водку прадае.
Тут уцешыліся ўсе:
— Надзя водкі прынясе!
Селі ўсе за стол пляткаркі,
Падымаюць угору чаркі.
— Вып'ем за здароўе Любы!
— Што сядзіш ты, як у клубе?
Толькі знаюць нашы цёткі,
Каб узяць каго на плёткі.
Перакінуць увесь свет —
Вёску, гміну і павет.
Паглядзець жа на сябе
Ім няма і ў галаве.

Д.Л

**ШЧАСЛІВЫ**

У залацістай кроплі янтару застыў старадаўні жук.
Сучасныя зайздросцяць:
— Добра захаваўся!

Р. Б.



Арыгінал

## АКЕНЦА ДУМАК

**У кожнага чалавека бываюць два выхаванні: адно, якое яму даюць іншыя, і другое, больш важнае, якое ён дае сабе сам.**

**Э. Гібон**

**ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ**

Па просьбе **Дануты Жукоўскай і Аллы Васілюк** змяшчаем рускі тэкст «Песні аб Варшаве»:

## Направо—мост, налево—мост

**Утром в переполненном трамвае**
**Отправляясь на завод,**
**Вижу, как Варшава молодая**
**Над широкой Вислой встает.**
**Кварталы, проспекты и парки вокруг,**
**Просторная трасса с тоннелем — и вдруг...**

**Припев:**

**Направо — мост,**
**Налево — мост,**
**И Висла перед нами.**
**И тут дома,**
**И там дома,**
**Одетые лесами.**
**Вот машины летят, обгоняя**
**Голубые вагоны трамвая.**
**Сияет яркой новизной**
**Варшава, мой город родной!**

**Я люблю, из Праги возвращаясь,**
**Постоять на берегу,**
**Здесь с любимым городом встречаюсь**
**И расстаться с ним не могу.**
**Вот новые зданья рядами стоят,**
**И мне улыбается Мариенштат...**

**Припев:**

**Направо — мост,**
**Налево — мост.**
**И Висла перед нами.**
**И тут дома,**
**И там дома,**
**Одетые лесами.**
**Вот над Вислой, волну задевая,**
**Наша песня летит трудовая.**
**И дышит ветром и весной**
**Варшава, мой город родной!**

**Погляжу налево и направо,**
**На дома, на шумный мост —**
**Предо мною новая Варшава**
**Вся в огнях, как в тысячах звезд.**
**Огни отражаются в темной воде,**
**И песенка наша поется везде.**

**Припев:**

**Направо — мост,**
**Налево — мост,**
**И Висла перед нами.**
**И тут дома,**
**И там дома,**
**Одетые лесами.**
**Вот машины, огнями сверкая,**
**Обгоняют вагоны трамвая.**
**Сияет яркой новизной**
**Варшава, мой город родной!**

Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 25-89, centrala 37-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch” Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch” Warszawa, ul. Wilcza 46, Nr konta PKO 1-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona” Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA. Nakład 5458. Bltk L-3